

Ці паўстане капальня? →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Фэст здароўя →9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 41 (3360) Год LXV | Беласток, 11 кастрычніка 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Беларускі народ не адзін

## У Беластоку прайшоў канцэрт „Сэрцам з Беларуссю”

**2 кастрычніка па Беластоку да позніх гадзін неслася беларуская музыка. У цэнтры горада, на плошчы перад Драматычным тэатрам, прайшоў канцэрт салідарнасці з беларускім народам. На сцэне выступілі выдатнейшыя беларускія музыкі і калектывы. Нягледзячы на дождж, людзі пад бел-чырвона-белымі сцягамі спявалі беларускія песні свабоды.**

Канцэрт „Сэрцам з Беларуссю” быў арганізаваны Беларускім аб’яднаннем студэнтаў, а таксама фондам „Тутака”, які дзейнічае ў карысць беларускай культуры і дзеля падтрымкі польска-беларускіх кантактаў.

— Вельмі многа людзей падтрымала нашу ініцыятыву: Алесь Зарэмбюк з Беларускага дому ў Варшаве ці Марына Ляшчэўская, якая з’яўляецца старшынёй фонду „Беларусь 2020”, — сказаў арганізатар канцэрта Радаслаў Пуська. — Мы атрымалі вялікую падтрымку ад прэзідэнта Беластока і маршалка Падляшскага ваяводства. Гэта таксама доказ, што Беласток, калі ідзе пра пытанне падтрымкі Беларусі, мае супольнае становішча.

Яшчэ да канцэрта ў сацсетках з’яўляліся ролікі, у якіх вядомыя асобы запрашалі на мерапрыемства: „Будзьма разам і падтрымлівайма беларускі народ у яго барацьбе за свабоду. Жыве Беларусь!” — сказаў прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі. „Для нас вельмі важнай з’яўляецца салідарнасць. Вельмі важна, каб мы ўсе разам сабраліся і падтрымалі адзін аднаго”, — гаварыў сябар Каардынацыйнай рады Павел Латушка. „Пакажам беларусам, што іх лёс нам неабыякавы”, — падкрэсліваў маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі. „У гэты дзень будзем для сябе вялікай сям’ёй”, — падкрэслівала Марына Ляшчэўская. „А можа хтосьці скіне спасылку на нашу трансляцыю Аляксандру Лукашэнку?” — рытарычна пытаў Павал Станкевіч з фонду „Тутака”.

Нягледзячы на дождж перад сцэнай людзі стаялі пад парасонамі ці пад распятымі над галовамі бел-чырвона-белымі сцягамі. Надвор’е крыху намяшала, але амаль паўтысячы людзей з усяго свету аглядала анлайн трансляцыю.

— Я гляджу аптымістычна на падзеі ў Беларусі, — сказаў перад выступам лідар гурту „Дзецюкі” Алесь Дзянісаў. — Падзеі паказваюць, што народ абудзіўся! І вельмі важна, што менавіта зрабіла гэта моладзь. Раней кожны дзейнічаў у нейкіх малых кругах, але як паказала сітуацыя, у аўтарытарным грамадстве таксама няма жыцця для такіх малых тусовак. Усё роўна палітыка і так дабярэцца, якім ты не быў бы пушыстым і як далёка не трымаўся б ад яе. Зараз вельмі прыемна глядзець на гэтыя ўсе песні і кліпы новага пакалення. Яно зрабіла сапраўдны выбар і ўжо не будзе здавацца.

Менавіта маладыя людзі з Беларусі, якія пераехалі вучыцца ў Беласток, таксама далучыліся да арганізацыі канцэрта. Для іх гэта адзін спосаб, каб неяк падтрымаць сваіх блізкіх і сяброў, якія засталіся ў Менску.

— Мы зараз не можам удзельнічаць у розных мітынгах у Беларусі, але прынамсі можам быць з беларусамі Беластока, — сказала Анна Габіс, валанцёрка з Менска, якая жыве і вучыцца ў Беластоку. — Я была на першых страйках у Менску. Была на плошчы 9 жніўня. Было страшна. Нават калі я вярнулася ў Польшчу, таксама надалей адчувала страх і сум з-за таго, што там трэба жыць маёй сям’і.

Анна разам са сваёй сяброўкай таксама ездзілі на канцэрт „Салідарныя з Беларуссю”, які прайшоў у Варшаве 26 верасня.

— Гэтая страшная сітуацыя аб’яднала людзей, — дадала валанцёрка з Беларусі Дар’я Смольная. — Раней я не ведала, што ў Беластоку жыве так многа людзей з Беларусі. Тут адчуваецца адзінства. Раней мы ездзілі на „Басовічша”, а зараз стараемся прысутнічаць на акцыях у Беластоку ці ў іншых гарадах Польшчы.

Канцэрт адкрыў адзін з самых папулярных калектываў Беларусі „Naviband”, які неаднойчы выступаў на Падляшшы ў час „Басовішча” ці „Бардаўскай восені”.

— Вельмі прыемна, што мы маглі менавіта тут выступіць, — адзначыла Ксенія Жук з гурту „Naviband”. — Гэта наш першы канцэрт у Польшчы за доўгі час. Шкада, што зараз мы тут з такой нагоды, але адначасова дзякуй Богу, што ёсць магчымасць сабрацца і падтрымаць нашу краіну, нашых людзей, беларусаў. Беларусы па ўсім свеце зараз вельмі моцна аб’ядноўваюцца і ствараюць неверагодныя рэчы.

На сцэне перад беластоцкім драмтэатрам выступіў таксама паэт, вакаліст і музыка культавых гуртоў „N.R.M.” ці „Крамбамбуля” — Лявон Вольскі. Прагучала культавая песня „Тры чарапахі”, якой словы добра ведалі прысутныя пад сцэнай. Легенда беларускай рок-музыкі супольна з Тамашам Арганкам выканалі песню „Муры” Яцка Качмарскага, якая стала сімвалам пратэстаў у Беларусі.

— Гралі ўжо ў Варшаве, а зараз тут, бо мы проста абавязаныя ўдзельнічаць у такіх акцыях, — адзначыў Лявон Вольскі. — Беларускі народ павінен разумець, што ён не адзін, яго падтрымліваюць, ён не кінуты на расціранне амонаўцаў і Лукашэнкі. Суседзі яго падтрымліваюць.

Канцэрт „Сэрцам з Беларуссю” быў арганізаваны дзякуючы фінансавай падтрымцы горада Беластока і самаўрада Падляшскага ваяводства. Ганаровымі патронамі з’яўляліся прэзідэнт Беластока і маршалак Падляшскага ваяводства. Канцэрт „Сэрцам з Беларуссю” — першая такая вялікая музычная падзея ў сталіцы Падляшша, якая прадэманстравала падтрымку для беларусаў у змаганні за свабоду.

— Польшча выказвае вялікую салідарнасць з беларускім народам і мы гэта заўважаем прыехаўшы сюды, — сказаў Арцём Лук’яненка з гурту „Naviband”. — У нас зараз вельмі многа прапаноў выступаў — людзям неабыякавая сітуацыя ў суседняй Беларусі. Думаю, што зараз таксама праз музыку можам паказаць кавалак цікавай Беларусі. А з музыкай у нас сапраўды нядрэнна. Галоўнае, каб у такі спосаб паказаць сваю падтрымку — у час выступу на сцэне ў Беластоку ў нас быў стрым і людзі з Менска маглі таксама нас пачуць. У гэтым ёсць місія.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

## Дэбют

# XXIII

### Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз у Польшчы аб’яўляюць XXIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «ДЭБЮТ». У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

### ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і ліцэяў,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з’яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп’ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб’ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XXIII Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

### ТЭРМІНЫ

**1.** Тэрмін дасылання да 20 лістапада 2020 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб’яўлены ў лістападзе 2020 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.





# Крыж і скальпель

У Гродне сабраліся судзіць вядомага доктара-хірурга. Уся „віна" гарадзенца Аляксандра Цыліндзя палягае ў тым, што ён стаяў на вуліцы горада з іконай на шыі і маліўся, побач была жонка з крыжам. Абраз, даруйце за каламбур, абразіў „блюстителей порядка" і на чалавека склалі пратакол за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

На першы раз суд не адбыўся. На адміністрацыйны працэс прыйшло каля 70 чалавек, яны прыйшлі падтрымаць аўтарытэтнага лекара і шчырага хрысціянскага верніка. Прыйшлі да будынка суда і святары, прычым ажно чатырох хрысціянскіх канфесій! Напэўна такая прысутнасць збянтэжыла тых, хто прымае ўсе рашэнні ў гэтым горадзе, разгляд справы перанеслі. Перанеслі зусім не таму, што ў некага прачнулася сумленне ці прававы сумнеў. Проста прадстаўнікі карнай сістэмы не захацелі лішняга грамадскага розгаласу.

У той самы дзень у Ваўкавыску судзілі праваслаўнага святара. Правініўся шаноўны іерэй Аляксандр Богдан перад пільнымі ўладамі тым, што ўсклаў кветкі да мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея. Святар прыйшоў да будынка, усклаў кветкі, ціха памаліўся. Але кветкі былі ўскладзены ў памяць пра загінуўшага ў жніўні маладога дырэктара культурніцкай установы Канстанціна Шышмакова. Таго самага, які адмовіўся ў выбарчы вечар падпісваць пратакол з фальшывымі вынікамі галасавання. Міліцыя, якую ўжо невядома як і называць, угледзела ў гэтым ускладанні кветак парушэнне заканадаўства. У выніку Ваўкавыскі суд не наважыўся аштрафаваць святара, але яму абвясцілі папярэджанне. Юрыдычна гэта ўсё роўна азначае, што святар, які ўсклаў кветкі, прызнаны судом вінаватым. У Гомелі з іншым праваслаўным святаром Уладзімірам Драбышэўскім увогуле не сталі цырымоніцца. Спярша яго за тое, што выйшаў пад вокны будынка мясцовага Следчага камітэта з плакатам „Спыніце гвалт!" арыштавалі на 10 сутак, а ўслед за іншы выхад на вуліцу яму прысудзілі яшчэ 15 сутак зняволення ў вязніцы. Царкоўнае кіраўніцтва са свайго боку не асмелілася пазбавіць бацюшку святарскага сану, але ж чамусьці вызваліла Драбышэўскага ад выканання царкоўных абавязкаў.

Тыя, хто раней не сутыкаўся з такім „правасуддзем", шчыра здзіўляюцца, што такое магчыма ў дваццатых гадах XXI стагоддзя. Але няма мяжы крывадушнасці і жорсткасці гэтай сістэмы. Ды няма ў ёй і загадкі — ад пачатку гэтая ўлада культывавала адраджэнне ўсяго горшага савецкага, таго, што было звязанае са сталінізмам, маральным і фізічным знішчэннем людзей. Таго, што было скіравана на знішчэнне і нацыянальных, і рэлігійных каштоўнасцей. Так што больш дзіўна, што такі працяглы час іерархі і клір асноўных хрысціянскіх канфесій па сутнасці ішлі ў цесным звязку з такой уладай і дакладна былі досыць лаяльныя да яе дзеянняў. Паваротным пунктам стаў хіба так званы Курапацкі крыжалом, калі ўлада адкрыта перайшла апошнюю мяжу пристойнасці. Ну а падзеі збіванняў, катаванняў, забойстваў мірных людзей 9-12 жніўня канчаткова паставілі ўсіх перад маральным выбарам. Нават чужародны паходжаннем для Беларусі мітрапаліт Павел, які ніколі не быў заўважаны ў асаблівых сімпатыях да беларусаў, не вытрымаў і выказаўся супраць гвалту. Яго неадкладна замянілі. Цяпер у Беларусі новы праваслаўны мітрапаліт — Веніямін, упершыню ў гісторыі Беларусі мясцовы паходжаннем. Ад яго асобы ў значнай ступені будзе зараз залежаць лёс праваслаўнай царквы ў Беларусі. А вось каталіцкага мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, які цвёрда асудзіў агрэсію ўлад, зусім не пускаюць у Беларусь, прычым насуперак усяму існаму заканадаўству. Але пра якое заканадаўства тут можна гаварыць...

Вядома дакладна, што такія дактары як Аляксандр Цыліндзь і яму падобныя, а многія дактары сёлета выявілі сябе вельмі годна, будуць і далей крыжам і скальпелем змагацца за здароўе і жыццё іншых, нават тых, хто зараз чыніць выразнае зло. Такія святары як Уладзімір Драбышэўскі будуць і надалей маліцца за душы не толькі пацярпелых і загінуўшых ад гвалту, але і іх крыўдзіцеляў. Бо такія людзі, як Цыліндзь, Драбышэўскі і складаюць агульнае сумленне нацыі. А вось тыя, хто іх незаконна і подла пераследуе, ужо трапілі ў жыццёвую Кнігу Ганьбы, іх нашчадкі будуць саромецца сваіх прозвішчаў, а магчыма і мяняць іх. Бо Праўда ўрэшце ўсё роўна пераможа.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Беларускі абаранак

Валерый Карбалевіч, якога лічаць адным з самых праніклівых беларускіх палітолагаў, у інтэрв'ю Радыё Свабода заявіў, што нават калі беларуская рэвалюцыя не атрымаецца, яна ўжо перамагла ў тым сэнсе, што людзі ў Беларусі летам 2020 года сталі грамадзянамі. Гэта належны стан бясспрэчных ведаў пра апошнія падзеі ў Беларусі. Мы не ведаем, як будзе праходзіць беларуская рэвалюцыя. А тое, што мы ведаем, што не ведаем, — поўная невядомасць. Можна толькі меркаваць, што самаабуджаная грамадзянская супольнасць у Беларусі з цягам часу стане цвёрдай у сваёй волі ўплываць на аблічча ўласнай краіны. Нават калі атрады АМАП пагоняць дэманстрантаў з вуліц дубінамі, толькі зменяцца формы іх грамадзянскай нязгоды на наморднікавы лад дзяржавы. Гэты працэс здаецца быць неспыняемым. Верагодна, маладыя, сабраўшыся ў хакерскія групы, пойдуць у «кіберпартызанку». Яна мае велізарны патэнцыял для сацыяльнага супраціву. Дзяржавы кібернетызуюцца, кібернетызуюцца грамадствы. У нас ужо ёсць рэальныя доказы таго, што таксама магчымыя эфектыўныя і паспяховыя кіберрэвалюцыі. Маладыя беларускія кіберпартыі нядаўна перапынілі трансляцыі дзяржаўных тэлевізійных праграм «Беларусь 1» і ОНТ, каб паказаць сцэны жорсткага ўмяшання міліцыі супраць людзей, якія пратэстуюць на вуліцах. Я думаю, што старыя беларусы таксама з часам далучацца да новых тэхналогій супрацьстаяння аўтарытарнаму рэжыму. Аднак усё, што ўсё яшчэ адбываецца ў Беларусі, залежыць ад саміх беларусаў. І ад нікога і нічога іншага. Ускосна прэзідэнт Францыі прызнаў гэта, не без пэўнага захаплення, сказаўшы пра беларусаў: «Яны ведаюць рызыку, якую яны бяруць на сябе (...), і ўсё ж працягваюць дзейнічаць на карысць дэмакратыі ў гэтай краіне».

Ці перамажа рэвалюцыя ў Беларусі? Кіберрэвалюцыя? Я асабіста сумняваюся ў вулічнай рэвалюцыі. Незалежна ад таго, што гэта будзе, я назаву яе грамадзянскай. Толькі і аж грамадзянскай, бо яе цяжка назваць паўсюднай. За цяперашняй палітычнай сістэмай у краіне стаіць уплывовы ледзь 40-50-гадовы бізнес і IT-істэблішмент, які зязюліным спосабам даспяваў да мільённых фартун за кошт дзяржавы, але таксама са згодай свайго ўладара. І, нарэшце, і недарэчна развіты канцылярскі апарат, падкуплены высокімі апанажамі і вельмі добра аплачванымі праваахоўнымі службамі. Гэта не проста некалькі трусоў, выцягнутых з шапкі ўлад Лукашэнкі. Гэта таксама іх вялікія, карумпаваныя дабрабытам сем'і, а таксама іхнія сваякі і зблатаваныя сябрукі. Яны ўтвараюць нешта накшталт беларускага абаранка, які ў роўнай ступені вызначаецца дзіркай самога вечнага прэзідэнта і яго палітычным, эканамічным і сацыяльным асяроддзем. Без гэтага Лукашэнка нічога не значыць — бо дзірка ў абаранку сама па сабе нічога не варта. Супраць чаго і каму адбываецца грамадзянская рэвалюцыя ў Беларусі? Ці супраць Лукашэнкі ці шырокай сістэмы сябрукоў труса, на якіх ён грунтуе сваю уладу? Гэта пытанне, на якое павінны адказаць не толькі беларусы, але і палітычная і нібыта спрыяльная пратэстам у Беларусі еўрапейская эліта. «Тое, што адбываецца ў Беларусі», — заявіў нядаўна прэзідэнт Францыі Эмануэль Макрон, — гэта крызіс улады, аўтарытарнай улады, якая не можа прыняць логіку дэмакратыі і якая падтрымліваецца сілай. Зразумела, — дадаў ён, — што Лукашэнка павінен зысці». Ну, правільна, павінен! Звычайнае бле-бле-бле... Але што з рэштай беларускага абаранка? Ён мае стратэгічнае значэнне для будучыні беларускай рэвалюцыі. Рэзкая заява Уладзіміра Пастухова, выдатнага палітолага Лонданскага ўніверсітэцкага каледжа для расійскай апазіцыйнай «Новой газеты», якую я цытую за Onet.pl, дае шмат месца для разважанняў. Паводле яго слоў, «[...] Лукашэнку хутчэй зрыне контррэвалюцыя, чым рэвалюцыя». У любым выпадку, тоўсты абаранак застанецца абаранкам. Але для каго ён тлусты?

Аднак я лічу, што грамадзянская рэвалюцыя ў Беларусі мае на ўвазе гэты аспект. Я веру ў яе грамадзянскую дасведчанасць і мудрасць. Я веру, бо дакладна нічога не ведаю. Хто ўвогуле ведае? Калісьці міністр абароны ЗША Дональд Рамсфельд трапна адзначыў: «Ёсць вядомыя рэчы — калі мы ведаем, што нешта ведаем. Ёсць таксама вядомыя невядомыя — калі мы ведаем, што чагосьці не ведаем. Але ёсць і невядомыя невядомыя. Гэта рэчы, пра якія мы нават не ведаем, што не ведаем».

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Народ — гаспадар

Шаноўныя чытачы, пасля даўжэйшага перапынку вяртаюся ізноў у свой фельетонны куточак, каб распавядаць вам, як глядзіцца мне гэтыя свет сваімі вачыма. Перапынак не быў вынікам ані маёй крыўды на род чалавечы, ані творчай імпатэнцыі. Проста, падзеі звязаныя з прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі выклікалі такі ўзрыў грамадскіх пратэстаў беларускага народа, што вырашыў я адступіць сваю паласу гродзенскім аўтарам Уладзіміру Хільмановічу і Віктару Сазонаву, каб яны шырэй прадставілі ніўскім чытачам сваё бачанне склаўшайся ў Беларусі сітуацыі. Калі чытаю іхнія тэксты, проста ганаруся памкненнямі да свабоды і незалежнасці нашага народа. Дзякую ўсім тым людзям, хто па ўсёй Беларусі адстойвае зараз наша найважнейшае, за дні годнасці і гордасці, якія аб'ядноўваюць усіх беларусаў, нягледзячы на месца пражывання. Таксама не менш важным для рэдакцыі было запісаць стан духу і эмоцый непасрэдных удзельнікаў, а не толькі высновы вонкавага наглядання за ходам падзей з суседняй Беласточчыны, хаця не без меншых эмоцый, але ўсё ж такі без шырэйшага кругагляду. Ад свайго імя, але думаю, што не саграшу, выступаючы таксама ад імя чытачоў, калі падзякую Валодзю і Віктару за тое, што маючы штодзень на галаве дзясяткі іншых спраў, абавязкаў і пагроз, ніколі нас не падвялі, паспяваючы заўсёды тэрмінова дасылаць свае тэксты ў рэдакцыю па панядзелках раніцай. А кожны з нас, хто хаця крыху дакрануўся і паспрабаваў журналісцкай прафесіі, добра ведае, што значыць тэрміновае напісанне тэкстаў. Увогуле ў гэтым месцы выказваю словы пашаны і павагі ўсім незалежным журналістам у Беларусі за тое, што нягледзячы на рэпрэсіі і пераслед, патрапілі данесці беларускай і міжнароднай супольнасці праўду пра жорсткія падзеі апошніх двух месяцаў. Наша беластоцкая, ніўская рэдакцыя салідарная з вамі. Маштабнасць і працяглласць беларускіх пратэстаў вярнулі беларускі народ і яго дзяржаўнае будаванне ў важны суб'ект міжнароднай супольнасці. Хочаш, не хочаш, але ўсялякія аналітыкі ці палітыкі мясцовага ці далейшага, замежнага балбатання мусяць, быццам каўкнуўшы ўмоўную жабу, перастаць трубіць у медыя і сведчыць сваімі дзеяннямі, што Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка з'яўляецца гарантам беларускай незалежнасці. Ім было выгадна гаварыць з дыктатарам і падтрымліваць яго русіфікатарскую палітыку, а не ўшаноўваць і ўзмацняць беларускую тоеснасць, і не бачыць беларускага народа як адзінага паўнапраўнага гаспадара на сваёй зямлі. Такім чынам яны самі дазволілі ў рэальнасці на шматгадовы працэс пашырэння рускага міру і на дзеянні зялёных чалавечкаў. Любілі адно гаварыць, а другое рабілі і ў сапраўднасці такім чынам дазвалялі дыктатару Беларусі гуляць па ўсіх яговых правілах. А цяпер гарлапаняць пра пагрозу з боку аднаго і другога светаў. На шчасце хлусня, з якой беларускім патрыётам прыходзілася змагацца цягам дваццацішасцігадовага ўладарання Лукашэнкі, правальваецца на вачах усіх звычайных людзей не толькі ў самой Беларусі. Вяртання да мінулага не можа быць, але няўмольна ўзнікае адно пытанне: а што далей? Ці чакае нас перамога над дыктатарам, ці можа крывавая помста з яго боку над беларускім народам? Такія пытанні ставіць сабе кожны беларус. Таксама ў нас, на Беласточчыне. Тут, у нас, усе разважанні маюць яшчэ адну адметнасць і спалучаны яны са своеасаблівым падляшскім рэлігійным містыцызмам. Людзі ўзгадваюць і па-новаму тлумачаць біблейскія словы пра будучыню, вялікую вайну і канец свету. Паводле іх Расія будзе толькі невялікай дзяржавай вакол Масквы. Новая сусветная вайна мае тады пачацца з невялікай краіны і бачыцца ім зараз... Расія або Беларусь. Тут важна, каб зусім не здурэў сённяшні кіраўнік Расеі (РасПуцін, як называюць яго некаторыя старажылы нашых вёсак). Пра ўсе такія справы пачуў я ў кабінеце свайго акуліста. Так, так акуліста, а не... акультыста. Ён падзяліўся са мною пачутым ад пацыентаў з гайнаўскага староння. Не хочацца дапускаць да сябе змрочных думак, але зараз зямны шар бачыцца людзям адной, вялікай бочкай пораху.

**Яўген ВАПА**

# Я маю надзею, што гэтая капальня ніколі не паўстане!

— А з якім намерам вы павесілі здымак з вадасховішчам? — спытаў у чыжоўскага войта прысутны на сустрэчы земляроб з Нарваўскай гміны.

Юры Васілюк, войт гміны Чыжы не толькі павесіў здымак у вітрыне перад будынкам гміны, але ён прыйшоў з ім на сустрэчу, каб пахваліцца перад паслом Адрыянам Зандбергам. Абразок салодкі — хоць ты цалуй. На ім адпачынкавы комплекс з басейнамі і пляжам, збудаваны на месцы выробленых тарфяных кар'ераў. Глянеш і думаеш: ніякія Крыты і Егіпеты ўжо непатрэбны! А грунт, усё будзе на месцы, пад бокам, не трэба далёка ездзіць, траціць грашакі на бензін і гатэлі. Толькі дурань адмовіцца ад такога раскошнага цуда...

Прыгожы адпачынкавы комплекс на здымку гэта прыклад і падказка таго, што можа ўзнікнуць за трыццаць гадоў на месцы выробленых шахт торфу між Кленікамі, Гародчынам і Градочнам. Аднак сёння войт Юры Васілюк лічыць на канкрэтны фінансавы прыбытак ад дзейнасці торфапрадпрыемства. Будуць новыя месцы працы для 30 асоб, сціплы бюджэт гміны папоўніцца падаткамі, ажыве дух прадпрымальнасці. Для такой сельскагаспадарчай гміны як Чыжы, дзе ўсіх бюджэтных грошай ледзь хапае на дзейнасць асветы, гэта шанс на працяг існавання. Сама справа здабычы торфу вядомая спачатку 2017 года.

— І я не разумею, — абураецца Юры Васілюк, — чаму зараз вы падымаеце такі крык!

* * *

— А мы прайшліся праз Кленікі, пагаварылі з людзьмі і зразумелі: не ўсё так проста і прыгожа, — кажа пасол Адрыян Зандберг. — Жыхары Кленік наракалі на недахоп інфармацыі. Мала хто разумеў, што адбываецца на самой справе, якія пагрозы і рызыку нясе торфапрадпрыемства. Усе спасылаліся адно на карысці і пазітыў, на палёгку жыцця. Людзі паўтаралі аргументы інвестара, а рэч у тым, — гаварыў пасол Зандберг, — каб яны ўлічылі свае сацыяльна-грамадскія інтарэсы. Каб разумелі, што падпісваючы дэкларацыю, яны нясуць адказнасць перад будучымі пакаленнямі.

У цывілізаваным свеце, ды нават у Польшчы ўжо адышлі ад прамысловай здабычы торфу. Раней яго выкарыстоўвалі ў агародніцтве, але зараз ёсць сінтэтычныя заменнікі.

— Здабыча торфу наносіць вялікую і трывалую шкоду для асяроддзя, — падняў тэму прафесар Віктар Катоўскі з Цэнтра аховы водна-балотных тэрыторый. — Не толькі панізіцца ўзровень вады ў наваколлі, паколькі тарфянікі — натуральны рэзервуар і рэгулятар у час паводак і засухі. Дзякуючы ім зніжаецца тэмпература і ачышчаецца паветра, паколькі торф убірае вуглякіслы газ. Калі пойдзе прамысловая здабыча торфу, тады павысіцца выкідванне вуглякіслага газу ў атмасферу, падскочыць тэмпература і пойдзе змена хімічнага саставу паветра і глебы. Тыя прылеглыя лугі ўжо не будуць такімі як раней, на месца балотных відаў флоры пойдуць іншыя расліны. Вось паглядзіце ўважна на гэты здымак з прыгожым адпачынкавым комплексам, — звярнуў увагу прафесар. — Якія расліны побач? Я бачу, што там буяніць адна... крапіва.

Апошняя заўвага выклікала здаровую ўспышку смеху сярод сабраных і прапагандысцкі плакат непрыкметна сышоў з вачэй і ўвагі.

Прафесар Катоўскі, як спецыяліст па пытанні асушвання і абязводжвання торфу, пакарыстаўся магчымасцю, каб распавесці пра навейшыя, прыбытковыя спосабы гаспадарання тарфянікамі і балотамі. У трэндзе — вырошчванне рагозу і трыснягу, якія поўнасцю ідуць на экспарт у Нямеччыну і Нідэрланды. Таксама прыбытковай справай з'яўляецца вырошчванне вербалозу і альшыны. Экалагічны від гаспадаркі захавае раўнавагу між вадзянымі адносінамі, гарантуе ахову радзімай флоры і паспрые гнездаванню балотнага птаства, прыцягне багатых турыстаў з Еўропы...


Юры Васілюк, войт гміны Чыжы прыйшоў на сустрэчу з візуалізацыяй вадасховішча


Пасол Адрыян Зандберг і Севярын Пракапюк


Раіса і Уладзімір Бэнэдычукі

* * *

— Я маю надзею што гэта *капальня*, ніколі не паўстане, — абураецца Раіса Бэнэдычук. — Інакш, куды нам дзявацца!

Спадарства Бэнэдычукі гадуюць кароў і цялят. Іх лугі мяжуюць з тэрыторыяй адведзенай пад здабычу торфу. Суседства, лічыць мая субяседніца, прымусіць іх да ліквідацыі жывёлагадоўлі. Тут не толькі могуць узнікнуць праблемы з вадой, іх звычайна выдвараць з прамысловай зоны. А гэта не проста гадоўля і гаспадарка, гэта зямля продкаў, якую яны хацелі б перадаць сваім дзецям. Спадарства Бэнэдычукі — жыхары гміны Нарва, якая не вырашае пра пабудову. Усе фармальныя дамовы з інвестарам, то-бок вядомым прадпрыемствам „Вокас", вырашаюць у Чыжах.

— А там усё рабілася паціху, нават суседзі ў вёсцы не ведалі, што нехта прадаў участак, — дадае Раіса Бэнэдычук.

Атмасфера таямнічасці і сакрэтнасці ў сапраўднасці ўжо зруйнавала спакой тым, што прадавалі ўчасткі. Нам удалося высвятліць, што за гектар тарфяной зямлі фірма плаціла гаспадару 12 тысяч злотых як за звычайны гектар зямлі ніжэйшага класа. Тыя, што разумелі абставіны, старгавалі такі сам гектар за сорак тысяч злотых.

Падпісваючы дамовы з інвестарам, людзі цешыліся заробкам і не ўяўлялі, што могуць пашкодзіць суседзям, земляробам ці самім сабе.

— Людзі думалі, што там пакапаюць нейкія ямкі, як гэта рабілася даўней, калі здабывалі торф для хатняга ацяплення, і на гэтым скончыцца, — кажа Севярын Пракапюк з партыі Разам. — Яны не ведалі, што пад шахты закуплена ўжо 170 гектараў, што будзе фабрыка для апрацоўкі сыравіны, што праз іх вёску пойдуць грузавікі, што паветра забрудзіцца тарфяным пылам, што ўзнікнуць праблемы з вадой.

Севярын Пракапюк прапанаваў, каб гміна Чыжы дапусціла да сваіх кансультацый таксама жыхароў суседніх гмін, якія не пагаджаюцца на дзейнасць торфапрадпрыемства і бачаць у гэтым вялікую пагрозу для асяроддзя.

* * *

Войт Юры Васілюк пакуль не бачыць іншых крыніц заробку, як эксплуатацыя залежаў торфу. Ён таксама не спадзяецца на прыродныя каштоўнасці ў стратэгіі развіцця гміны.

— Усе, хто зацікаўлены прыродай, і так паедуць у Белавежу, — кажа. — Турысты, праўда, могуць катацца на веласіпедах праз нашы прыгожыя вёскі, але ўсё роўна паедуць есці і спаць у Белавежу. На тэрыторыі гміны пакуль два агратурыстычныя пансіянаты. Але нягледзячы на ўсё, — сказаў ён, — мы не адмаўляемся ад правядзення кансультацый у нашай гміне.

Як не цікава, такія кансультацыі адбыліся ўжо ў гміне Нарва і людзі не пагадзіліся на пабудову шахтаў. Інвестыцыя, не толькі паўплывае на інтарэсы паасобных земляробаў, але пагоршыць якасць жыцця ўсіх жыхароў даліны Нарвы. Яны не скрываюць абурэння, што пра лёс іх ракі і даліны вырашаць жыхары Курашава ці Лядаў. Для іх, у этнічна-ментальным сэнсе, гэта далёкі і часта варожы (вядома што няма вялікай дружбы паміж парафіямі Чыжы і Кленікі) свет. Таксама кволыя аргументы, што падпіраюцца праблемай беспрацоўя. Кожны ахвотны можа знайсці прыстойны заробак хоць бы ў прадпрыемствах суполкі „Пронар", але там ёсць адзін прынцып — сухі закон. Яшчэ больш незразумела прамаўляюць фінансавыя карысці ад дзейнасці прадпрыемства. Паводле падлікаў фінансістаў з-за падаткаў ад торфапрадпрыемства гміна ўзбагаціцца на... сто тысяч злотых. Словам, адзін смех і бяда.

Ды сапраўды лепш маніць сялянам вочы вадасховішчам і будучай раскошай. Няважна, што навакол зацвітуць бур'ян і крапіва!

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

MINISTERSTWO EDUKACJI NARODOWEJ

Warszawa, marzec 2020 r.

# Informacja Ministra Edukacji Narodowej na temat stanu edukacji mniejszości białoruskiej w Polsce

Obywatele polscy pochodzenia białoruskiego mają status mniejszości narodowej, przyznany na podstawie przepisów ustawy z dnia 6 stycznia 2005 r. o mniejszościach narodowych i etnicznych oraz o języku regionalnym[1].

Przepisy art. 13 ustawy z dnia 7 września 1991 r. o systemie oświaty[2] umożliwiają organizowanie w szkołach publicznych — na wniosek rodziców — zajęć służących podtrzymywaniu tożsamości językowej i kulturowej uczniów należących do mniejszości narodowych i etnicznych oraz społeczności posługującej się językiem regionalnym, przez organizowanie nauki języka mniejszości, nauki własnej historii i kultury oraz geografii państwa, z którego obszarem kulturowym utożsamia się mniejszość narodowa.

Mniejszość białoruska w Rzeczypospolitej Polskiej tworzy zwarte skupiska lokalne na terenie województwa podlaskiego, głównie w okolicach Hajnówki, Bielska Podlaskiego, Białowieży i Białegostoku.

Nauczanie języka białoruskiego prowadzone jest na terenie województwa podlaskiego, a od roku szkolnego 2017/2018 także w Warszawie, gdzie przy Szkole Podstawowej nr 395 im. Rotmistrza Witolda Pileckiego (ul. Sierakowskiego 9) został powołany Międzyprzedszkolny Zespół Nauczania Mniejszości Białoruskiej oraz Międzyszkolny Zespół Nauczania Mniejszości Białoruskiej.

W bieżącym roku szkolnym w nauce języka białoruskiego w Warszawie uczestniczy 8 przedszkolaków oraz 9 uczniów szkoły podstawowej.

**1. Organizacja procesu nauczania języka białoruskiego.**

Nauczanie języka mniejszości narodowej białoruskiej organizowane jest w formie dodatkowej nauki tego języka w 2 przedszkolach, 25 szkołach podstawowych oraz w 2 liceach ogólnokształcących na terenie województwa podlaskiego.

**Tab. 1.** Wykaz jednostek prowadzących dodatkową naukę języka białoruskiego i liczba dzieci pobierających naukę tego języka (dane z SIO stan 1 marca 2020 r.)[3]

| Lp. | Nazwa jednostki | Liczba uczniów uczących się języka białoruskiego | Liczba uczniów mniejszości ogółem | Liczba uczniów w szkole ogółem |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Przedszkole nr 1 w Hajnówce | 26 | 26 | 125 |
| 2 | Przedszkole Samorządowe nr 14 w Białymstoku | 119 | 119 | 171 |
| 3 | Niepubliczna Szkoła Podstawowa św. św. Cyryla i Metodego w Białymstoku | 110 | 131 | 151 |
| 4 | Szkoła Podstawowa w Dubinach | 79 | 79 | 178 |
| 5 | Szkoła Podstawowa w Nowokorninie | 23 | 23 | 27 |
| 6 | Szkoła Podstawowa w Dubiczach Cerkiewnych | 54 | 54 | 65 |
| 7 | Szkoła Podstawowa w Białowieży | 36 | 36 | 101 |
| 8 | Szkoła Podstawowa im. Partyzantów Braci M. i A. Chrzanowskich w Gródku | 80 | 80 | 300 |
| 9 | Szkoła Podstawowa w Narewce | 74 | 74 | 182 |
| 10 | Szkoła Podstawowa nr 3 w Hajnówce | 79 | 79 | 141 |
| 11 | Szkoła Podstawowa nr 1 im. J. Kusocińskiego w Hajnówce | 24 | 24 | 363 |
| 12 | Szkoła Podstawowa nr 2 im. W. Jagiełły w Hajnówce | 90 | 90 | 332 |
| 13 | Szkoła Podstawowa nr 4 im. H. Sienkiewicza w Hajnówce | 116 | 116 | 537 |
| 14 | Szkoła Podstawowa w Czyżach | 69 | 69 | 121 |
| 15 | Szkoła Podstawowa w Kleszczelach | 34 | 34 | 103 |
| 16 | Niepubliczna szkoła Podstawowa w Załukach | 42 | 42 | 45 |
| 17 | Szkoła Podstawowa im. Bohaterów Powstań Narodowych w Szudziałowie | 29 | 29 | 153 |
| 18 | Szkoła Podstawowa im. A. Mickiewicza w Babikach | 24 | 25 | 68 |
| 19 | Szkoła Podstawowa w Augustowie | 83 | 83 | 327 |
| 20 | Szkoła Podstawowa nr 3 z Dodatkową Nauką Języka Białoruskiego im. J. Kostykiewicza w Bielsku Podlaskim | 594 | 594 | 616 |
| 21 | Szkoła Podstawowa nr 4 im. Sybiraków w Białymstoku | 93 | 93 | 486 |
| 22 | Szkoła Podstawowa im. gen. Zygmunta Berlinga w Narwi | 63 | 63 | 216 |
| 23 | Szkoła Podstawowa z Dodatkowym Nauczaniem Języka Białoruskiego w Orli | 71 | 71 | 196 |
| 24 | Szkoła Podstawowa w Czeremsze | 24 | 77 | 148 |
| 25 | Szkoła podstawowa im. W. Syrokomli w Michałowie | 66 | 66 | 423 |
| 26 | Stowarzyszenie „Edukator" w Łomży — Szkoła Podstawowa w Orzeszkowie | 22 | 22 | 29 |
| 27 | Niepubliczna Szkoła Podstawowa nr 1 św. Abp. Łukasza Wojno-Jasienieckiego w Bielsku Podlaskim | 16 | 16 | 16 |
| 28 | II Liceum Ogólnokształcące z Białoruskim Językiem Nauczania im. Bronisława Taraszkiewicza w Bielsku Podlaskim | 264 | 264 | 264 |
| 29 | II Liceum Ogólnokształcące z Dodatkową Nauką Języka Białoruskiego w Hajnówce | 325 | 325 | 325 |
| | Łącznie: | **2730** | **2804** | **6029** |

**Tab. 1.**

Nauczanie języka białoruskiego odbywa się zgodnie z przepisami rozporządzenia Ministra Edukacji Narodowej z dnia 18 sierpnia 2017 r. w sprawie warunków i sposobu wykonywania przez przedszkola, szkoły i placówki publiczne zadań umożliwiających podtrzymywanie poczucia tożsamości narodowej, etnicznej i językowej uczniów należących do mniejszości narodowych i etnicznych oraz społeczności posługującej się językiem regionalnym (Dz. U. poz. 1627).

Przedszkola i szkoły umożliwiają uczniom należącym do mniejszości narodowych naukę języka mniejszości narodowej i naukę własnej historii i kultury.

Wymiar godzin nauki języka białoruskiego w szkołach wynosi 3 godziny tygodniowo.

Nauka własnej historii i kultury jest prowadzona dla uczniów klas:

- V i VI szkoły podstawowej — w wymiarze 25 godzin rocznie,
- II i III liceum ogólnokształcącego — w wymiarze 20 godzin rocznie,
- II i III technikum — w wymiarze 20 godzin rocznie,
- I i II branżowej szkoły I stopnia — w wymiarze 15 godzin rocznie,
- I branżowej szkoły II stopnia — w wymiarze 10 godzin rocznie.

Szkoły publiczne mogą prowadzić dla uczniów należących do mniejszości narodowych naukę geografii państwa, z którego obszarem kulturowym utożsamia się mniejszość narodowa, w wymiarze do 30 godzin na II etapie edukacyjnym i do 15 godzin w liceum ogólnokształcącym, technikum, branżowej szkole I stopnia, jeżeli organ prowadzący szkołę przyzna godziny na realizację tej nauki.

Rodzice uczniów pobierających naukę języka mniejszości narodowej białoruskiej nie zgłaszali problemów dotyczących dostępu do nauczania własnego języka, własnej historii i kultury oraz geografii.

Dyrektorzy szkół i organy prowadzące nie przekazywali informacji wskazujących na trudności związane z organizacją nauczania dzieci i młodzieży należących do mniejszości narodowej białoruskiej.

**2. Nadzór podlaskiego Kuratora Oświaty nad organizacją kształcenia mniejszości narodowych.**

W ramach nadzoru sprawowanego przez Podlaskiego Kuratora Oświaty prowadzone jest monitorowanie realizacji przez szkoły zadań służących podtrzymywaniu poczucia tożsamości narodowej uczniów należących do mniejszości narodowych.

Szkoły prowadzące dodatkowe nauczanie języka mniejszości są szkołami ogólnodostępnymi w związku z tym są traktowane tak samo jak inne szkoły i w stosunku do nich stosuje się takie same wymagania jak w przypadku wszystkich szkół.

W toku nadzoru pedagogicznego wizytatorzy zwracają uwagę na przestrzeganie przepisów prawa oświatowego, szczególnie w zakresie przydziału liczby godzin na naukę języka mniejszości oraz właściwego podziału na grupy.

Przy opiniowaniu arkuszy organizacyjnych szkół duży nacisk jest położony na kwalifikacje nauczycieli uczących języków mniejszości.

Na terenie województwa podlaskiego Kuratorium jest organizatorem konkursów przedmiotowych w tym również konkursu języka białoruskiego, w którym biorą udział chętni uczniowie szkół podstawowych i gimnazjów (do roku 2019) uczących się tego języka. Na bieżąco jest monitorowane zaopatrzenie szkół w podręczniki do nauczania języków mniejszości narodowych.

W roku szkolnym 2017/18 przeprowadzono kontrolę planową *Ocena prawidłowości realizacji zadań szkół i przedszkoli w zakresie organizacji nauki języka mniejszości narodowej, etnicznej i języka regionalnego oraz własnej historii i kultury.* Kontrolą objęto 1 przedszkole oraz 1 liceum, gdzie nauczany jest język mniejszości narodowej białoruskiej. Wydane zalecenia dotyczyły przestrzegania zapisów art. 2 i 19 ustawy z dnia 6 stycznia 2005 r. o mniejszościach narodowych i etnicznych oraz o języku regionalnym (Dz.U. z 2017r., poz. 823). W obu przypadkach dyrektorzy objęli nauką języka mniejszości uczniów nieposiadających obywatelstwa polskiego.

**3. Ocenianie uczniów.**

Ocenianie uczniów odbywa się na podstawie przepisów ustawy z dnia 7 września 1991r. o systemie oświaty oraz dwóch rozporządzeń:

1) rozporządzenia Ministra Edukacji Narodowej z dnia 3 sierpnia 2017 r. w sprawie oceniania, klasyfikowania i promowania uczniów i słuchaczy w szkołach publicznych (Dz. U. poz. 1534) — ma zastosowanie do szkół podstawowych i ponadpodstawowych;

2) rozporządzenia Ministra Edukacji Narodowej z dnia 10 czerwca 2015 r. w sprawie szczegółowych warunków i sposobu oceniania, klasyfikowania i promowania uczniów i słuchaczy w szkołach publicznych (Dz. U. poz. 843, z późn. zm.) — ma zastosowanie do uczniów klas gimnazjalnych oraz trzyletniego liceum ogólnokształcącego (szkoła ponadgimnazjalna), do zakończenia kształcenia w tego typu szkole.

Ocenianie uczniów odbywa się w ramach wewnątrzszkolnego systemu oceniania, uwzględniającego specyfikę szkół.

**4. Egzamin maturalny**

Absolwent szkoły lub oddziału z nauczaniem języka danej mniejszości narodowej, w tym języka białoruskiego, przystępuje do egzaminu maturalnego z tego języka jako przedmiotu obowiązkowego. Oznacza to, że każdy absolwent tej szkoły lub oddziału na egzaminie maturalnym z tego przedmiotu, tak jak w przypadku pozostałych przedmiotów obowiązkowych (język polski, język obcy nowożytny i matematyka), aby zdać egzamin maturalny, powinien otrzymać co najmniej 30% punktów możliwych do uzyskania (z każdej części egzaminu — ustnej oraz pisemnej). Absolwent szkoły lub oddziału z językiem nauczania mniejszości narodowej, w których zajęcia są prowadzone w tym języku, oraz absolwent szkoły lub oddziału dwujęzycznego, w którym język mniejszości narodowej jest drugim językiem nauczania, może zdawać na egzaminie maturalnym przedmioty w języku polskim lub — z wyjątkiem języka polskiego oraz treści dotyczących historii Polski i geografii Polski — w języku danej mniejszości narodowej. Corocznie około 150 absolwentów liceum przystępuje do egzaminu maturalnego z języka białoruskiego.

**5. Wojewódzki konkurs przedmiotowy z języka białoruskiego oraz olimpiada języka białoruskiego.**

We wszystkich szkołach prowadzących nauczanie języka mniejszości narodowej białoruskiej uczniowie mają możliwość korzystania z oferty konkursów przedmiotowych, w tym wojewódzkiego konkursu

# Музыка плыве з майго сэрца

**З Пятром Кожанам — гарманістам, мультыінструменталістам, аранжыроўшчыкам, а таксама лідарам і вакалістам беларускага гурта «Вегас» з Супрасля размаўляе Юрка Буйнюк.**

**Юрка Буйнюк: — Скажы як пачалася Твая прыгода з музыкай?**

**Пётр Кожан:** — Усё пачалося з майго бацькі, які быў лідарам гурта «Завыкі». Бацькаў гурт іграў беларускія, украінскія, рускія і польскія песні. Я змалку прывыкаў да нашай беларускай музыкі, таму што мой тата генетычна перадаў мне зацікаўленне музыкай і беларуская музыка ёсць ува мне.

**— У якім годзе паўстаў гурт «Вегас» і хто быў у першым складзе гэтай групы?**

— Гурт «Вегас» паўстаў у 2003 годзе і ў першым складзе быў я, Пётр Кожан, як вакаліст і аранжыроўшчык, быў мой дваюрадны брат Рафал Кандрацюк і наш сябра Адам, а таксама Павел Волчык.

**— Пасля Адам стварыў іншы калектыў (гурт «Соляр» — Ю. Б.)?**

— Так.

**— У 2007 годзе з'явіўся ваш дэбютны альбом «Пагадай».**

— Мы кампакт-дыск «Пагадай» поўнасцю зрабілі самі. Там змясцілі самыя папулярныя беларускія песні тыпу «Вяне рута», «Чараўніца», «Беларусачка» ды іншыя. У маёй студыі я рабіў аранжыроўкі ды запісваў вакал. Мае знаёмыя фатографы зрабілі нам фотасесію на вокладку альбома. Мы самі зрабілі ўсю вокладку і графіку кампакт-дыска. Тыраж кампакт-дыска быў толькі 200 экзэмпляраў. На пачатку была ў нас такая ідэя, каб альбом раздаваць у рамках прамоцыі без аніякай фінансавай карысці, але мы сваю кружэлку таксама прадавалі асобам, якія прасілі нас. Альбом можна было купіць у краме праваслаўнага брацтва па вуліцы Ліпавай у Беластоку.

**— Як выглядала праца над першым альбомам?**

— Тады гурт «Вегас» ставіў першыя крокі ў самастойнай музычнай прадукцыі. Было шмат невядомых у стварэнні аранжыровак, якія мы самі тады ўпершыню раскрывалі і гэта было вельмі прыгожае. Мы рабілі аранжыроўкі на праграме для музыкальнага рэдагавання «Cubase». Некаторыя інструменты былі віртуальныя, астатнія — жывыя, тыпу гармонікі, гітары, саксафон ці бубны. Усё мы гэта міксавалі, многа разоў правяралі і высылалі ў студыю, якая займалася міксаваннем і мастэрынгам, каб на канец гатовыя песні трапілі на дыск.

**— Ваш кампакт-дыск «Пагадай» быў на вельмі высокім узроўні, а вядомыя беларускія песні тыпу «Вяне рута» ці «Чараўніца» былі апрацаваны ў сучасных танцавальных аранжыроўках.**

— Шчыра кажучы, добра не памятаю, як мы выбіралі свой стыль.

Напэўна нам залежала, каб былі вядомыя інструменты тыпу гармонік, гітара, акустычныя бубны. Да таго крыху электронікі і каб усе гэтыя інструменты з'ядналіць у прыемны для вуха мікс.

**— Ці Ты закончыў музычную школу?**

— На пачатку маёй прыгоды з музыкай я займаўся ў музычным кружку ў Беластоку. Пасля вучыў мяне спадар Лявон — сябра майго бацькі. Ён навучыў іграць мяне на сінтэзатары. Калі пазнаў я акорды, дык сам пачаў іграць са слыху. Калі чалавек азнаёміцца з падставамі музыкі, ды самастойна, тады сама музыка плыве ад тваайго сэрца, можна іграць і кампанаваць свае песні. Менавіта так пачалася мая прыгода з музыкай. Я самастойна ўмею іграць на гармоніку, саксафоне, бубнах, але, вядома, я галоўны вакаліст гурта «Вегас». Умею таксама аранжаваць новыя свае творы, якія ствараю на праграме «Cubase».

**— Твой гурт калісьці меў свой сайт у інтэрнэце.**

— Зараз для нас найлепшай формай прамоцыі з'яўляецца фейсбук, але працуем і над новым сайтам.

**— Я вельмі часта пабываў на беларускіх дыскатэках у беластоцкіх клубах, дзе іграў гурт «Вегас». Як успамінаеш гэты час?**

— Гэта быў вельмі файны час. Дзякуючы такім імпрэзам была вельмі добрая прамоцыя нашага калектыву, дайшло шмат беларускіх фэстаў па ўсёй Беласточчыне. Таксама штогод мы ігралі беларускае Купалле ў Белавежы. Мы не раз выступалі на Фестывалі «Беларуская песня» ў Беластоку. Аднак найбольш мы зайгралі вяселляў. Таму я вельмі добра ўспамінаю гэты час.

**— Ці Вы ігралі канцэрты па-за Падляшшам?**

— Калісьці мы мелі прапанову зайграць на праваслаўны Новы год з 13 на 14 студзеня ў Лондане, але мы не пакарысталіся запрашэннем, таму што для нас было гэта надта далёка, а па-другое тут, на Падляшшы, штогод мы ігралі на Гагатуху ў Беластоку. Аднак найбольш мы ігралі вяселляў. Мы як калектыў аддаем перавагу вяселлям.

**— Вы зайгралі вяселлe ў майго сябра Радаслава Біскупа, які зараз з'яўляецца лідарам польскага гурта «Міамі». Ён вельмі прыемна ўспамінае сваё вяселле і не раз мне кажа, што гурт «Вегас» — найлепшы беларускі калектыў на Падляшшы...**

— Памятаю яго вяселле. Захоўваю відэазапіс, на якім бачна, што госці вельмі добра гулялі.

**— Зараз большасць імпрэз адтэрмінаваная. Як гурт «Вегас» спраўляецца ў добе каранавіруса?**

— Зараз мы іграем вяселлі пры захаванні санітарнага рэжыму — вяселле максімум да 150 асоб. Многа вяселляў перанесены на наступны год. Таксама ёсць вяселлі, якіх тэрміны з'явіліся на працягу 2-3 тыдняў. Зараз шмат змянілася. Як калісьці хтосьці планаваў вяселле год ці два гады раней, дык зараз бывае па-рознаму. Мы заўсёды адкрыты на тое, каб перанесці тэрмін на любы час.

**— Ты выступаеш ды-джэем на вяселлях?**

— Так, былі такія эпізоды, што замест гурта мы з сябрам выступалі для знаёмых ды-джэямі на дзень нараджэння. Аднак мы на вяселлях іграем як калектыў.

**— Гурт «Вегас» не раз выступаў на фестывалі «Беларуская песня». Як ацэньваеце супрацоўніцтва з БГКТ?**

— Тэрміны імпрэз, якія арганізуе БГКТ, часта супадалі з тэрмінамі, калі мы ігралі вяселлі ці беларускія дыскатэкі. Таму мы адказваліся выступаць на беларускіх фэстах. Мы не раз ігралі на беларускім Купаллі ў Белавежы ці на Фестывалі «Беларуская песня» ў Беластоку. Мы таксама выступалі на «Сяброўскай бяседзе» ў Гарадку. Імпрэзы арганізаваныя БГКТ, у якіх мы зайгралі як калектыў «Вегас», вельмі прыемна ўспамінаю.

**— Ці плануеце выдаць другі альбом на беларускай мове?**

— Плануем выдаць беларускую кружэлку. Зараз думаем выдаць аўтарскі альбом з нашымі песнямі на беларускай мове. Безумоўна, для гэтага трэба больш інспірацый, на якія зараз чакаем. На апошнім Купаллі мы пазнаёміліся з аўтарам тэкстаў з Беларусі, які нам перадаў свае песні. Плануем таксама стварыць новыя песні для нашага навейшага альбома і гэта будзе сюрпрыз для паклоннікаў гурта «Вегас». Мы як калектыў адкрыты на новых беларускіх аўтараў тэкстаў ды кампазітараў.

**— Наклад альбома «Пагадай» разышоўся. Ці будзе магчымасць пачуць Вашы старыя песні на канале Youtube, а мо нават купіць на Google Play, Deazer, Spotify?**

— Вядома, што мінае мода на кампакт-дыскі і лічбавая якасць песень *digital audio* становіцца вельмі папулярнай. Першы наш альбом меў больш рэкламны характар, але мы думаем свае песні размясціць на гэтых парталах, так каб кожнаму паклонніку нашай музыкі на ўсім свеце быў працейшы доступ да нашых песень.

**— Якой прыватна слухаеш музыкі?**

— Найбольш мне падабаецца руская і ўкраінская музыка. Я фанат песень Нікалая Баскава і Ірыны Федышын. Паводле мяне самыя таленавітыя і арыгінальныя музыканты, кампазітары, аўтары тэкстаў ды спевакі менавіта з Расіі і Украіны.

**— Ты ўспамінаў, што дэбютны альбом запісаў у сваёй студыі?**

— Так, я студыю маю ў сваёй хаце. Аднак найфайнейшыя ідэі на новыя песні прыходзяць да мяне падчас язды на аўтамашыне. Зараз пачынаецца восень дык будзе менш вяселляў і пленэрных імпрэз, затое будзе больш часу на працу ў студыі над навейшым альбомам.

**— Дзякую за размову і жадаю як найбольш інспірацый для навейшай кружэлкі.**

Размаўляў **Юрка БУЙНЮК**

Дата з Календара

# 80 гадоў з дня нараджэння
# Кастуся ТАРАСАВА

Беларускі пісьменнік Кастусь Тарасаў нарадзіўся 10 кастрычніка 1940 г. у Мінску. Паходзіў з сям'і службоўца Івана Тарасава і Марыны Матусевіч. Творчасць гэтага літаратара паўплывала на свядомасць цэлага пакалення беларусаў. У многіх першае знаёмства з сапраўднай беларускай гісторыяй адбылося з прачытання яго кніжкі „Памяць пра легенды". Гэтая кніга перавярнула светагляд многіх.

Жыццё Кастуся пачалося з трагічнага здарэння. У пяцігадовым узросце хлопчык пашкодзіў пазваночнік (загуляўшыся з братамі, ён упаў з печы), бацькі не адвезлі сына да доктара, і неўзабаве ў хлопчыка стаў расці горб. У дзяцінстве Кастусь Тарасаў быў вельмі блізкі з бабуляй Ядвігай Матусевіч. Яна раптоўна памерла, калі хлопчыку было 12 год. Пра бацьку і пра бабулю Тарасаў пазней пакінуў успаміны.

У шаснаццаць гадоў Кастусь пазнаёміўся з Кімам Хадзеявым, менскім філосафам і дысідэнтам. Дом Кіма быў своеасаблівым клубам для вальнадумных і творча настроеных маладых людзей. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1957 г. цягам трох гадоў Тарасаў працаваў слесарам-зборшчыкам на Мінскім механічным заводзе, калектарам у Паўночна-Заходняй геолага-разведачнай экспедыцыі, слесарам-мантажнікам у арганізацыі „Спецэлеватармельбуд". Вучыўся на хімічным факультэце Беларускага політэхнічнага інстытута (1960-1965). Пасля заканчэння інстытута працаваў майстрам шкловарэння на шклозаводзе „Нёман", тэхнолагам на віцебскім заводзе „Маналіт". Быў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве „Вышэйшая школа" (1967-1975), журналістам па дагаворы і загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі газеты „Знамя юности" (1975-1977), рэдактарам аддзела мастацтва і крытыкі часопіса „Неман" (1977-1983), спецыяльным карэспандэнтам газеты „Літаратура і мастацтва" (1986-1988). З 1990 г. — адказны сакратар часопіса „Спадчына". Пазней стаў адным з заснавальнікаў газеты „Новы час", друкаваў у ёй гістарычныя нарысы.

У 1966 г. Тарасаў пачаў друкавацца як журналіст. З мастацкім творам выступіў упершыню ў 1976 г. (аповесць „Следственный эксперимент", часопіс „Неман"). Пісаў на рускай і беларускай мовах. Аўтар гістарычных аповесцей пра мінулае Беларусі. Аўтар кніг „День рассеяния" (1980), „В час Стрельца" (1981), „Странствие в тесном кругу" (1986), „Погоня на Грюнвальд" (1986), зборніка гісторыка-літаратурных эсэ „Памяць пра легенды" (1984, пашыранае выданне на беларускай мове ў 1990 г.), „Золотая горка" (1998). Выдаў аповесць „Апошняе каханне князя Міндоўга", пра дачыненні ўладара і ўлады. Па матывах аповесці Кастуся Тарасава „Чорны шлях" (рускамоўны варыянт „Стая ворон над гостинцем") драматург Аляксей Дудараў стварыў п'есу „Ядвіга" (Купалаўскі тэатр, рэжысёр Валерый Раеўскі).

Творчасць Кастуся Тарасава была высока ацэнена. Зараз цяжка гэта ўявіць, але ў 1988 г. ён атрымаў Прэмію Міністэрства абароны СССР за раман „Погоня на Грюнвальд". У 2007 г. — прэмію „Залаты апостраф" часопіса „Дзеяслоў" за аповеды „Брыгіткі" і „Нячутныя гукі самоты". У 2010 г. — прэмію імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра „За актыўную і плённую працу ў галіне гістарычнай прозы і эсэістыкі, што спрыяе фармаванню сучаснай нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларусаў".

У красавіку 2006 г. у Тарасава здарыўся інсульт. Сям'я перавезла яго ў Маскву, паступовая здароўе стала аднаўляцца. У красавіку 2009 г. ён вярнуўся ў Мінск. Памёр Кастусь Тарасаў раптоўна 20 сакавіка 2010 г. Пахаваны на сталічных Чыжоўскіх могілках.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# «Жывіце ў Міхалове!»

Міхалоўская гміна будуе дамы і запрашае да сябе новых жыхароў.

З жніўня пачаліся запісы на новыя камунальныя кватэры ў Міхалове. Яны даступныя ў двух варыянтах: 59 м² і 106 м². У выпадку памяшканняў з большай забудаванай плошчай таксама будзе даступны гараж, і ў кожнага будзе агародчык. Кватэры будуць пабудаваны ў характэрных, распрацаваных спецыяльна для Міхалова дамах — у кожным з іх будзе па чатыры кватэры.

Заяўкі збіраліся на працягу жніўня і верасня ў мэрыі ў Міхалове. Бургамістр Міхалова Марк Назарка паведаміў гэтую інфармацыю падчас урачыстай сесіі Гарадской рады ў Міхалове, калі адзначылі 30-годдзе самакіравання ў гміне.

— За гэтыя 30 гадоў не толькі Міхалова, але і ўсе вёскі ў гміне змянілі воблік. Але мы не збіраемся спыняцца на дасягнутым. Уваходзім у новае 30-годдзе з нашай праграмай «Жывіце ў Міхалове», — падкрэсліў бургамістр падчас сесіі. — Мы здаўна абяцалі вялікую праграму будаўніцтва жылля, і зараз прыйшоў час апраўдаць сваё слова. Я думаю, што гэта будучыня нашай гміны. Я заклікаю ўсіх жыць у Міхалове. Новыя жыхары азначаюць больш падаткаў, дзеці ў дзіцячых садках — развіццё нашай гміны. Тут я бачу нашу будучыню. Гэта выклік на многія гады.

Міхалова, мяркуецца, ідэальнае месца для спакойнага і камфортнага жыцця. Кватэры будуць абсталяваны ўсімі медыя. Несумненнай перавагай з'яўляецца і пытанне ацяплення — будынкі будуць падключаны да гарадскога цеплаправода, што, безумоўна, знізіць рахункі да абсалютнага мінімуму. Варта таксама падкрэсліць, што жыхары Міхалова вызваляюцца ад выплаты падатку на нерухомасць.

Два варыянты кватэр на выбар. Камуна прапануе прывабнае інвестыцыйнае фінансаванне. У выпадку з дамамі плошчай 59 м² і 106 м² будуць даступныя дзве формы набыцця нерухомасці: арэнда і купля. У выпадку арэнды дагавор заключаецца на нявызначаны тэрмін з магчымасцю выкупу маёмасці праз 15 гадоў карыстання. Арэндная плата за меншую кватэру будзе вагацца каля 395 злотых, а ў другім выпадку — 595 злотых штомесячна. Арэнда прызначана для жыхароў гміны Міхалова, якія на дзень здачы кватэр у эксплуатацыю жылі ў гміне Міхалова не менш за год і не маюць іншых правоў на жылыя памяшканні / дамы ў гміне. Выкуп у арэнду ў сваю чаргу адрозніваецца перадачай права ўласнасці на кватэру карыстальніку, які выплачвае растэрміноўку разам з арэнднай платай у Суполку. У гэтым выпадку не трэба браць індывідуальную іпатэку на набыццё нерухомасці (крэдыт бярэцца Суполкай ад імя арандатараў). Выкуп адкрыты для ўсіх, няма неабходнасці жыць у Міхалоўскай гміне. Арэндная плата разам з растэрміноўкай складае адпаведна 790 злотых і 1190 злотых. Пагасіць абавязацельствы можна без працэнтаў праз 5 гадоў. У выпадку выкупу для ўдзелу ў будаўнічых выдатках патрабуецца 30% ад кошту інвестыцыі. Дакладная сума арэнднай платы будзе дадзена пасля падпісання дагавора з банкам, але яна не павінна істотна адрозніваецца ад першапачатковых разлікаў.

Усю інфармацыю можна атрымаць на сайце www.zamieszkajwmichalowie.pl і з панядзелка па пятніцу з 8.00 да 16.00 па тэлефоне 734 496 354. (лук)

Капаюць бульбу ў Новым Ляўкове
Фота Янкі Целушэцкага

## Новыя вуліцы ў Новай Луцэ і Нараўцы

На двух сёлетніх сесіях Гміннай рады ў Нараўцы Гайнаўскага павета былі прысвоены назвы новым вуліцам у Новай Луцэ і Нараўцы.

У Новай Луцэ (вёска на ўскраіне прыгожага перш-наперш сасновага лесу) галоўная вуліца — Лесная і ад яе бяруць пачатак Ясянёвая, Яжэмбіновая, Ліпавая, Грабовая, Дубовая, Бярозавая, Ядлоўцавая, Тапалёвая і Свярковая. Падчас апошняй вераснёвай сесіі Гміннай рады новай вуліцы ў Новай Луцэ прысвоілі назву Савіная (Sowia). Па-за вуліцай Леснай усе іншыя гэта ўсяго г.зв. унутраныя дарогі да дачных і не толькі такіх домікаў і дамоў.

У Нараўцы новая вуліца атрымала назву Сонечная (прыгожая назва, праўда). (яц)

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування Зміцеру Косціну і яго блізкім з прычыны напаткаўшага Яго гора – смерці маці Веры.

**Сябры з Аб'яднання АБ-БА, Нівы і Радыё Рацыя**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. стыль у архітэктуры і дэкаратыўным мастацтве пачатку XIX стагоддзя = 15 _ 8 _ 16 _ 7 _ 14 _;
2. закаўказская сталіца = 31 _ 32 _ 33 _ 34 _;
3. запазычанасць, абавязак = 3 _ 4 _ 5 _ 6 _;
4. прозвішча беларускага магнацкага роду ў... шпацыры = 24 _ 30 _ 18 _;
5. пузырыстая вадкасць, напрыклад, на піве = 21 _ 27 _ 1 _ 22 _;
6. залацісты напой, які вараць, напрыклад, у Лідзе = 29 _ 28 _ 9 _ 2 _;
7. стракатая птушка атрада вераб'іных = 23 _ 25 _ 26 _ 17 _ 19 _ 20 _;
8. сусед эвенка і бурата = 10 _ 11 _ 12 _ 13 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 |
| | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | | 31 | 32 | 33 | 34 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 37 нумара**

Мяў, Пенза, пешка, удаў, ура.

Рашэнне: **Праўду ў яму не закапаеш**.

# 11.10 — 17.10

**(22.03. — 20.04.)** 12-16.10. можаш кепска ацаніць свае магчымасці і падвергнуцца стратам; зрабі сустрэчу з сям'ёй. 12-16.10, калі лечышся ці ты на псіхатэрапіі — чакай пералому. 13-17.10. нецярплівасць і злосць не будуць добрымі дарадчыкамі; напруга і скандалы. Энергіі хопіць, але не аддавай яе на справы нявартыя захаду. Адкінеш тое, да чаго прывык па сантыментах.

**(21.04. — 21.05.)** 11, 12.10. атрымаеш галоўны выйгрыш у змаганні за чыёсь сэрца. Звычайная штодзённасць дазволіць дацаніць тое, што маеш. Ад 14.10. адновіш старыя знаёмствы. На працы няма што наракаць. Абавязкаў так многа, што не з усімі вырабішся. Быкі з II дэкады маюць шанцы на павышэнне, але будзьце больш ініцыятыўнымі. 11-13.10. шукай працу з адкрытымі вачыма.

**(22.05. — 22.06.)** 12-16.10. удалыя імпрэзы, рандэву. 11-13.10. секстыль Венеры з Меркурыем будзе крыніцай інспірацыі і натхнення. Планы пасля 14.10. будуць прыпынены. З 14.10. (аж да 31.10.) бюракратыя дасць табе ў скуру, таму да 14.10. рэгіструй фірму, старайся за канцэсію ці датацыю. Дбай аб свой імунітэт.

**(23.06. — 23.07.)** 11, 12.10. старайся правесці рамантычны час у пары. 11-13.10. час спрыяе наладжванню знаёмстваў. У чыіхсьці вачах проста ўтопішся, а вартыя ўвагі ў тае асобы не толькі вочы. А пасля 14.10. не з усімі добра дагаворышся. На працы старайся не браць на сябе замнога, хаця марыш пра павышэнне. Не хапай абы драбязу ў заданнях, з 16.10. шыкуюцца больш маштабныя заданні. Ад нерваў можа разбалецца страўнік. 11-17.10. давярай свайму сэрцу і інтуіцыі — яны цябе не падвядуць.

**(24.07. — 23.08.)** 12-16.10. людзі будуць табе прыхільныя і спрыяльныя. 15-17.10. атрымаеш шанц, на які ты нават не разлічваў. Калі не хочаш расчаравацца, не патрабуй зашмат ад сябе. 12-16.10. ад прыкрых абавязкаў не ўдасца табе ўхіліцца. З 16.10. мерай сілы на намеры, бо не ўсё зробіш адзін. 11-13.10. удасца табе выклікаць уражанне на высокапастаўленай асобе. Эфектыўна выкарыстоўвай сваю сілу.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш прыгожы, баявіты. Добрыя задумы і нагоды для іх рэалізацыі. З 16.10. мноства нагод для файных сустрэч. 11, 12.10. для самотных Дзеў незвычайныя сустрэчы і пачуцці. 11-13.10. пераканаешся, колькі ў цябе сяброў. Але 15-17.10. паменшацца твае сілы і самаўпэўненасць упадзе амаль да нуля. На працы не сумнявайся ў сваіх умеласцях і не ўцякай ад саперніцтва. Будзеш трохі санлівы і стомлены, прымяняй ароматэрапію. З 17.10. (да 21.10.) не забудзь зайграць у латарэю!

**(24.09. — 23.10.)** 11, 12.10. без праблем прыстасуешся да новых сітуацый. 12-16.10. здабудзеш прыхільнасць атачэння. Але 11-13.10. можаш адчуць, як траціш грунт пад нагамі. З 16.10. нядобры час на рашэнні аб расстанні. З 16.10. могуць наступіць прастоі і спазненні. На працы здабывай саюзнікаў. З 13.10. (да 20.10. будзеш падатлівы на аварыі, кантузіі, інфекцыі, нядобры час таксама на аперацыі — выберы іншы тэрмін.

**(24.10. — 22.11.)** Не будзеш нудзіцца. Пазнаёмішся з цікавымі людзьмі, асабліва 11-13.10. Але не разлічвай на любоў з першага пагляду. Дома ўсё зваліцца на тваю спіну. Чакае нейкая хатняя імпрэза. Справішся са сваімі фінансамі, пагасіш даўгі. Шыкуецца большы заробак. Але будзеш аслаблены, не злаві востры інфекцыі. Не эксперыментуй у пахудзенні, еж меншыя порцыі. 11, 12.10. не сапернічай. 13-17.10. мусіш супрацьстаяць сваім страхам і траўмам.

**(23.11. — 22.12.)** Узмоцніцца твая інтуіцыя і паявяцца ўдалыя выпадкі ад лёсу. Але 11-13.10. не парывайся на цяжкія заданні. 11-13.10. можаш адчуць сябе здраджаным і выкарыстаным. У сувязях адмоўся ад руціны. З 16.10. будуць ліпнуць да цябе асобы карыслівыя, маніпулятары, прытым вельмі мілыя, так што няхутка разбярэшся, у чым справа. У інтарэсах часовы застой. З 16.10. могуць цябе папракаць у чымсьці ў чым ты невіноўны. У здароўі не пападай у крайнасці.

**(23.12. — 20.01.)** Можа здзейсніцца адна з тваіх мар. 12-16.10. не пашкадуй імпульсіўных паводзін. З 16.10. могуць прачнуцца ў табе сум і пачуццё віны. 11, 12.10. зразумееш свае пачуцці. 11-13.10. прыгадаеш свае мары і пасіі — варта іх рэалізаваць. 13-17.10. на працы праціўнік зробіць табе паскудства — пільнуй дакументы, забяспечвай камп'ютар, размовы правадзь без пастаронніх. Купі хатні роварчык.

**(21.01. — 19.02.)** Да 13.10. здабудзеш штосьці, аб чым марацць іншыя. 11, 12.10. добра правядзі размову з шэфам — дасць табе вольную руку і бюджэт. Да 13.10. аформі найважнейшыя справы. Кандыцыя і спраўнасць, але больш нерваў. Адпачывай бліжэй натуры.

**(20.02. — 21.03.)** Праца прыемная і карысная, твае задумы будуць мець прызнанне. Увядзеш у жыццё добрыя змены. 11, 12.10. можа заспець цябе любоў з першага пагляду. 15-17.10. цяжка будзе вырашаць; не страць вялікага шанцу!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Новае ў Беластоку

1 кастрычніка быў здадзены ў карыстанне будынак пасажырскага вакзала ў Беластоку. Сваю дзейнасць абноўлены вакзальны комплекс пачаў ціхенька ўжо з самай раніцы, затое афіцыйная інаўгурацыя адбылася зараз перад абедам.

На афіцыйнае адкрыццё «новага» вакзала з'явіліся мясцовыя лідары кіруючай партыі, у іх ліку бывалыя на міністарскіх пасадах паслы Яраслаў Зялінскі і Дарыюш Пянткоўскі, паслы Мечыслаў Башко і Казімеж Гвяздоўскі, маршалак ваяводства Артур Касіцкі ды ваявода Багдан Пашкоўскі. Былі і іншыя беластоцкія і варшаўскія чыны.

Член праўлення Польскай дзяржаўнай чыгункі Ірэнэўш Масляны падкрэсліў незвычайнасць задачы мадэрнізацыі беластоцкага чыгуначнага вакзала, аднаго з ліку двухсот вакзалаў у 2016-2023 гадах. На гэтую задачу адведзена каля двух мільярдаў злотых. Да гэтай пары ўдалося завяршыць інвестыцыі на дзевятнаццаці аб'ектах; беластоцкі вакзал з'яўляецца менавіта дзевятнаццатым змадэрнізаваным аб'ектам. Беластоцкі вакзал асаблівы — гэта прыгожы гістарычны аб'ект, узведзены ў 1862 годзе. У сувязі з тым, што гэта асаблівы помнік даўніны, трэба было асабліва старанна яго мадэрнізаваць. Складана было спалучыць тую гістарычнасць з мадэрнасцю, якую трэба было ўвесці ў гэты аб'ект. Трэба было ўключыць сучасныя тэхналогіі, якія неабходныя для дзейнасці такога аб'екта ў XXI стагоддзі. Былі мадэрнізаваны ўсе сістэмы дзейнасці вакзала. Плошча гэтага аб'екта гэта каля дзвюх тысяч квадратных метраў, карыстальная плошча — каля трох тысяч квадратных метраў. Плошча ўчастка, ахопленага інвестыцыяй — паўтара гектара. Створана аўтастаянка на больш за сто машын. Збудавана веласіпедная стаянка. Наваколле забудаванае зеленню, новымі пасадкамі. Кошт аб'екта склаў каля 45 мільёнаў злотаў, з чаго каля 70% гэта дафінансаванне з Еўрасаюза, з праграмы «Усходняя Польшча». Нельга таксама забыць, што было дафінансаванне з дзяржбюджэту і іншых крыніц. Гэта дазволіла справіцца з задачай. Дзеля рэканструкцыі вакзала прынялі мы дату 1910, калі ён найбуйней працаваў. І ўсе архітэктурныя падрабязнасці былі прымяркоўваны да таго перыяду. Паўстала прыгожая абліцоўка, асабліва выдатна бачная вечарам, пад ілюмінацыяй. Чарговым этапам, які павінен будзе пачаты, але не завершаны, будзе тунель пад пуцямі.

**Яраслаў ЗЯЛІНСКІ**: — Тое што мы ўважліва бачым, гэта аграмадны цывілізацыйны скачок Усходняй Польшчы ў рамках праграмы «Развой Усходняй Польшчы», якая з'яўляецца таксама праграмай Права і справядлівасці. Тыя мільёны выдзелены менавіта з гэтай праграмы. Будуюцца вялікія камунікацыйныя артэрыі, найважнейшая тут Rail Baltica, прагрэс набірае сілы — ездзім штораз хутчэй, штораз выгадней, у Варшаву і ў іншыя гарады, і далей. А чыгунка і дарогі вельмі патрэбныя, нягледзячы, што жывем у эпосе інтэрнэту, патрэбнае перамяшчэнне, будуюцца вялікія і малыя чыгуначныя лініі, забытыя рэвіталізуюцца. А вось гэты вакзал з'яўляецца візіткай горада і рэгіёна. І цяпер першае ўражанне ад прыезду ў Беласток будзе добрае, а нават выдатнае. І ўсе мы гэтаму вельмі рады.

**Януш КАВАЛЬСКІ**, дзяржсакратар у Міністэрстве дзяржаўных актываў: — Гэтая інвестыцыя з'яўляецца сімвалам праўлення Задзіночнай правіцы, гэта, як гаварыў прэм'ер Качынскі, вяртанне інфраструктурнай годнасці Усходняй Польшчы. Гэта сімвал Беластока, які будзе сваццю велічным прыкладам, велічны вакзал, адна з найбуйнейшых інвестыцый на Усходняй сцяне, архітэктурная жамчужына. Такі прыгожы горад як Беласток патрабуе сімвалаў і маем такі сімвал у выглядзе ўніверсітэта, а чарговым такім сімвалам будзе менавіта чыгуначны вакзал.



■ Абноўлена пачакальня






■ Цяперашні від з «Граеўскай» на «Пецярбургскую» чыгунку

**Артур КАСІЦКІ**: — Вельмі дзякую падляшскім парламентарыям, што можам сёння адкрываць гэты вакзал, гэта візітка Беластока і Падляшша. Гэта вялікі сімвал таго, што пры праўленні Задзіночанай правіцы няма ні Польшчы-А, ні Польшчы-Б. Відаць як змяняецца цяпер Польшча. За гэта міністрам і ўсяму ўраду хачу сардэчна падзякаваць. Таксама хачу падзякаваць чыгуначным уладам, што ўдалося здзейсніць такую складаную задачу. Вялікі паклон таксама выканаўцам і інвестару.

Пасля афіцыйных ляўдацый месца пакрапілі свяцонай вадой каталіцкі біскуп і праваслаўны бацюшка. А што было ў абед — не ведаю...

На мінулагоднім Усходнім эканамічным кангрэсе адзін з краёвых чыгуначных дырэктараў Арнальд Брэш абнародаваў, што Польшча атрымала з Еўрасаюза вялікія сродкі на чыгуначныя мэты. Зазначыў ён тады, што папярэдні ўрад не цяміў, што з тымі сродкамі рабіць, затое цяперашні ўрад знайшоў рашэнне як іх выкарыстаць. І сапраўды, беластоцкі вакзал, які быў цалкам нядаўна, бо ў 1989-2003 гадах грунтоўна мадэрнізаваны, змадэрнізавалі чарговы раз. Ці было гэта неабходна? На наступны дзень, едучы поездам, адзін чыгуначнік заявіў, што ўвалілі грошы ў балота...

Гэтую заяву можна аднесці і да цяперашняй крытычнай ацэнкі новай інвестыцыі, як і да пачаткаў дачыненняў Беластока з чыгункай. Бо цяперашні беластоцкі вакзал у пачатку 1860-х гадоў быў узведзены ў балоцістым месцы, дзе быў стаў ды раслі чараты і альшына. Было гэта за тадышнімі гарадскімі межамі. Цяпер гэта цяжка ўявіць, бо з ходам гадоў прастора вакол вакзала забудоўвалася і цяпер чыгуначны вакзал быццам перанёсся ў цэнтр Беластока.

Чыгуначную Варшаўска-Пецярбургскую лінію, якая завітала ў Беласток, пачалі будаваць у пачатку 1850-х гадоў. Збудавалі яе толькі з Пецярбурга ў Гатчына і спынілі, бо пачалася Крымская вайна. Пазней будова была ўзноўлена і ўся лінія была завершана ў 1862 годзе; да Беластока дацягнулі яе два гады раней, у 1860 годзе. У канцы таго года ў Беласток прыехаў першы паравоз, цягнучы за сабою некалькі вагонаў. Людзі збегліся паглядзець гэтае цуда. Беластачане былі перакананы, што паравоз прыводзіць у рух седзячы ў яго чэраве чорт, якога падганялі ўперад распальваючы агонь пад ягоным хвастом. Вакзальны будынак быў узведзены ў 1861 годзе. У чарговых дзесяцігоддзях, у ходзе войнаў, аб'ект быў разрушаны, але пасля адбудоўваны.

У пачатковым перыядзе, аж да канца XIX стагоддзя, не было раскладаў язды цягнікоў. Ездзілі яны як прыходзілася. На станцыі быў адмысловы звон, якога першы ўдар паведамляў пра набліжэнне поезда. Другі ўдар абвяшчаў з'яўленне цягніка на гарызонце, а трэці — пра прыезд на станцыю. Усё ж такі пасажыры падарожнічалі — у 1891 годзе па Варшаўска-Пецярбургскай чыгунцы праехалася амаль два з паловай мільёна пасажыраў.

Адзінаццаць гадоў пазней побач Беластока пралягла чарговая чыгунка — Берасцейска-Граеўская. Тут галоўнай станцыяй сталі Старасельцы. Але ў трох кіламетрах ад гэтай станцыі быў устаноўлены і прыпынак Беласток-Паўднёвы; сляды ад яго захаваліся да нашага часу ў выглядзе цэментных прыступкаў у пачакальню. Названая лінія была часткай большай транспартнай магістралі, якая злучала Каралевец з Адэсай, па якой адбываўся галоўным чынам грузавы транспарт — збожжа з Украіны вазілі ў балтыйскія парты. А ў 1886 годзе з Беластока пайшла чарговая чыгуначная лінія — у Баранавічы. Апошнюю лінію перасякла пасляваенная дзяржаўная граніца і транспарт па ёй нават быў на нейкі час спынены, а зараз ён такі кволенькі, па летніх суботах і нядзелях, а пуці зараслі прыродным багаццем; магчыма, што такі ж транспарт працуе і ў Польшчы-А...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 41